# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 20 (2214) 16 мая 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.



**Мы знаходзімся пад уражаннем студзеньскіх падзей у Вільнюсе. Гэтая трагедыя часоў перабудовы заклікае не толькі да спачування і смутку па бязвінных ахвярах сённяшняга Вільнюса, але і да памяці пра Вільнюс, які больш за 500 гадоў быў сведкам трагічных падзей нашай уласнай гераічнай і крывавай гісторыі, з'яўляючыся цэнтрам палітычнага, культурнага, нацыянальнага і духоўнага жыцця беларускага народа. Цяпер мала хто ў нашай краіне ведае, што горад Вільнюс — гістарычная Вільня — на працягу ўсёй сваёй шматвяковай гісторыі, аж да 1940 года, з'яўляўся палітычным і культурным цэнтрам з перавагай славянскага насельніцтва. У Польшчы гэта вядома кожнаму. Забыццё вялікага значэння Вільні ў гісторыі і культуры славянскага свету і ў трагічным лёсе беларускага народа абумоўлена шэрагам акалічнасцей як палітычнага характару — перадачай Літве ў 1939 годзе горада Вільні і краю (у выніку сакрэтнай змовы паміж Сталіным і Гітлерам), так і гістарычных, што ідуць у глыб стагоддзяў.**

**"ДЗВЕ ЛІТВЫ"**
Стар. 5.



**Шчодрасць мецэнатаў дапамагла адрадзіцца яшчэ аднаму цудоўнаму святу нашых бабуль і дзядуль — Юр'еву дню. Некалькі дзесяткаў тысяч рублёў перадалі на яго правядзенне рэспубліканскае арэнднае аб'яднанне "Белатракцыён", Мінскі мотавелазавод, іншыя прадпрыемствы горада. У многім дзякуючы іменна магутнай фінансавай падтрымцы, свята ўдалося на славу. Яно вярнулася да нас пасля шматгадовага забыцця яшчэ адным сведчаннем адраджэння народных традыцый, абуджэння нацыянальнай самасвядомасці.**

**У энцыклапедычным даведніку чытаем: у Юр'еў дзень Георгій Пабедаросец адчыняе замкі ўраджаю і зямной урадлівасці... Свята, якое зарадзілася ў часы язычніцтва, было адным з самых любімых ва ўсіх славянскіх народаў. Але, хоць Юрый — урачыстасць хлебаробаў, нанава святкаваць яго пачалі ў гарадах. Быццам знудзіўшыся па зямлі, добрай песні і казцы, сотні мінчан прыйшлі 4 мая ў маляўнічы сад ля Белай дачы, дзе, як і згадваюць паданні, разгорталася вясёлае і прыгожае дзейства.**

**З асфальту, з транспартнай таўкатні людзі нечакана трапілі на духмяны майскі луг, пад засень апрануты ў яшчэ празрысты зялёны ўбор дрэў. Хто ўсеўся на траву глядзець і слухаць. Ну а тыя, хто больш смелы, самі пусціліся ў скокі, пачалі падпяваць самадзейным і прафесійным артыстам.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**



*НАША ГІСТОРЫЯ*

## КАЛІ МІНЧАНЕ ВУЧЫЛІСЯ ЧЫТАЦЬ

Было гэта не так ўжо і даўно. Мо год сто таму назад, калі прыкметна пашырылася друкарская справа, паадчыняліся кніжныя крамы, выходзіў "Мінскі лісток", было што друкаваць. Руская рэалістычная літаратура перажывала росквіт. Вяліся даследаванні гісторыі і этнаграфіі беларускага народа. З'явіліся першыя беларускія песняры. Усё больш папулярнымі станавіліся ідэі навуковага сацыялізму, вучэнне К. Маркса. Інтэлігенцыя цягнулася да ведаў, каб знайсці сродак вызвалення працоўных ад прыгнёту. Менавіта тады, у 1890 годзе, і з'явілася ідэя аб адкрыцці ў Мінску публічнай бібліятэкі. А выказалі яе гісторык А. Слупскі (будучы рэдактар "Северо-Западного календаря" за 1892 і 1893 гады) і санітарны інспектар горада доктар А. Грацыянаў, які не толькі добрасумленна адносіўся да сваіх службовых абавязкаў, але яшчэ і займаўся навуковай дзейнасцю. Справа ў тым, што пакарыстацца патрэбнай кнігай у правінцыяльным Мінску было няпроста. Адкрытая ў горадзе ў 1836 годзе першая публічная бібліятэка (у асноўным польскамоўная) праісnavала да пачатку 60-х гадоў. Яна спыніла сваё існаванне ў сувязі з падзеямі 1863 года. Хоць у горадзе і дзейнічалі бібліятэкі, якія належалі прыватным асобам ды розным ведамствам — адна з іх пры Упраўленні Лібава-Роменскай чыгункі, і даволі багатая — але ж карыстацца імі магло толькі абмежаванае кола чытачоў. Каб неяк задаволіць попыт мінчан, уладальнікі кніжных крам пачалі выдаваць літаратуру на хатні абанемент за адпаведную плату — 30—50 капеек у месяц. У асноўным гэта была белетрыстыка. Усё гэта ведалі "бацькі" горада. Пытанне аб адкрыцці публічнай бібліятэкі некалькі разоў абмяркоўвалася на пасяджэннях гарадской Думы, але было адхілена: не хапала сродкаў, бо вялікія выдаткі пайшлі на будаўніцтва адкрытага ў тым жа 1890 годзе тэатра.

Потым выплылі неадкладныя справы па добраўпарадкаванню горада. І толькі ў 1899 годзе, калі ў краіне шырока адзначаўся 100-гадовы юбілей з дня нараджэння А. Пушкіна, мара кнігалюбаў наблізілася да здзяйснення. Прагрэсіўная грамадскасць выказалася за адкрыццё ў горадзе бібліятэкі ў гонар вялікага паэта. На гэты раз, уладкаваўшы свае фінансавыя справы, Дума адразу ж прынялася за выпрацоўку статута. Такія тады былі патрабаванні. У чэрвені 1900 года статут бібліятэкі зацвердзіў мінскі губернатар князь М. Трубяцкі. Ён жа ў свой час падтрымаў ідэю будаўніцтва ў горадзе мураванага тэатра і не пярэчыў адкрыццю таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Адукаваны вяльможа добра разумеў ролю культурных устаноў у справе русіфікацыі краю, але ці мог ён

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ І МАРАЛЬ

# КАМСАМОЛЬЦЫ — БІЗНЕСМЕНЫ

Якіх толькі асацыяцый не ствараецца! Не абмінуў павеў часу і камсамол рэспублікі. Пад эгідай ЦК ЛКСМБ і іншых заснавальнікаў нядаўна пачала дзейнічаць рэспубліканская асацыяцыя маладзёжных прадпрыемстваў і арганізацый (РАМПА). Яе дырэктар Рыгор Сураўнёў разважае:

— Камсамол і прадпрымальніцтва... Яшчэ параўнаўча нядаўна нават спалучэнне гэтых слоў выклікала б у камсамольскіх функцыянераў гнеўны адпор, успрымалася як правакацыя, абраза светлых ідэалаў Камуністычнага Саюза Моладзі. Цяпер вось камсамол усялякімі намкнецца праявіць сябе ў рызыкоўнай сферы бізнесу. Чым гэта выклікана? Прычын тут некалькі. Ідзі стварэння пры камітэтах камсамола гаспадарчых структур, якія б дазвалялі моладзі ўдзельнічаць у эканамічным жыцці, самім зарабляць, а не выпрошваць сродкі на вырашэнне сваіх праблем, даўно насіліся ў паветры. Але ва ўмовах каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, дзе нашаму Саюзу адводзілася роля памагатага партыі, ажыццявіць іх было проста немагчыма. Між тым выказвалася і выказваецца давол шмат каштоўных прапаноў. І нарэшце, калі з'явіўся шанс іх рэалізаваць, чаму мы павінны яго ўпускаць? — гаворыць Рыгор.

Так, грошы патрэбны моладзі не менш (а маладым сем'ям, якія не маюць багатых бацькоў, асабліва), чым іншым групам насельніцтва. На стыпендыю сёння не пражывеш. Акрамя таго, прадпрымальніцкая дзейнасць — адна з крыніц папаўнення сродкамі бюджэту камсамола. Маладзёжныя прадпрыемствы, назавём іх так, робяць невялікія адлічэнні ў бюджэт ВЛКСМ: 5—10 працэнтаў. Але і яны не ідуць на зарплату апарата, а на фінансаванне розных маладзёжных праграм і секцый, будаўніцтва і рамонт кафэ, культурных цэнтраў, правядзенне сустрэч, музычных фестываляў і г. д.

Маладзёжныя цэнтры, фонды ініцыятывы, якія па сутнасці з'яўляюцца малымі прадпрыемствамі, не забяспечваюцца дзяржавай матэрыяламі і сыравінай, лімітамі на іх утрыманне. Усё даводзіцца здабываць самім, шукаць пастаўшчыкоў, пасрэднікаў, каналы збыту гатовай прадукцыі. Маладыя бізнесмены працуюць па ўмовах "дзікага" рынку. Гэта, акрамя шматлікіх непрыемнасцей, нервовых стрэсаў, эмацыянальных перагрузак, тым не менш загартоўвае іх характары, вучыць рызыкаваць, знаходзіць выйсце, здавалася б, у бязвыхадных сітуацыях, перамагаць абставіны.

Удзельнікі маладзёжных прадпрыемстваў выпускаюць тавары шырокага спажывання, прадукцыю тэхнічнага прызначэння, вядуць рамонтна-будаўнічыя работы, арганізуюць паслугі насельніцтву... Усяго не пералічыць. Летась прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія працуюць пад эгідай ЦК ЛКСМБ (а іх 232), выпушчана тавараў і аказана паслуг на 110 мільёнаў рублёў.

Напрыклад, маладзёжнае гаспадарча-разліковае аб'яднанне "Сістэма" (заснавальнік Мінскі абком камсамола) мае ўжо шматмільённы абарот. Прычым, дасягнута гэта за кошт вырабу патрэбных рэчаў: дзіцячага адзення, тавараў лёгкай прамысловасці. А маладзёжны цэнтр "Арыенцір" (заснавальнік ЦК ЛКСМБ) пачынаў з запісу аўдыя- і відэакасет. Потым там наладзілі выпуск друкарскай прадукцыі, заняліся арганізацыяй турыстычных паездак моладзі па краіне і за мяжу. Цяпер перайшлі да навукова-тэхнічных распрацовак па заказах прадпрыемстваў. "Арыенцір" асвоіў ужо 12 відаў дзейнасці. Усё часцей удзельнікі асацыяцыі звяртаюцца да знешнеэканамічнай дзейнасці. У тым ліку "Арыенцір". Скажам, у адного з прадпрыемстваў засталася валюта пятай катэгорыі, напрыклад, маркі былой ГДР. Што з імі рабіць, там не ведаюць. "Арыенцір" знайшоў партнёра, з дапамогай якога набылі за мяжой патрэбнае для прадпрыемства абсталяванне. Зразумела, паслуга гэта была не бясплатнай.

— Дырэктар вядомага ў Мінску прадпрыемства папрасіў нас пасадзейнічаць у будаўніцтве новага вытворчага корпуса. А ў гэтага кіраўніка, наколькі мне вядома, шырокія сувязі ў дзелавых колах рэспублікі. Але ён выбраў нас. Значыць, даверае. Дарэчы, ёсць цікавыя прапановы па стварэнню СП з боку замежных фірм Англіі, Германіі, Італіі, — расказвае Сураўнёў.

— А ці не хвалюе вас тое, што захапленне прадпрымальніцтвам звядзе на "нішто" выхаваўчую функцыю камсамола, будзе спрыяць фарміраванню ў моладзі прагі да нажывы, сквапнасці, халоднага разліку, да грошай? — пытаюся ў Рыгора.

— Гэта будзе ў многім залежаць ад таго, як выкарыстоўваюцца заробленыя моладдзю грошы. Напрыклад, добра было б, калі б адлічэнні ў мясцовы бюджэт ішлі на вырашэнне канкрэтных маладзёжных праблем горада, раёна, пасёлка. Чаму б на іх не ўзвесці дзіцячы сад ці яслі, маладзёжнае кафэ, аднавіць парк культуры? Прыгадаем дабрачынную дзейнасць нашых прадпрыемстваў. Летась іх адлічэнні на сацыяльныя мерапрыемствы, дабрачыннасць склалі каля 2 мільёнаў рублёў. У прыватнасці, маладзёжнае прадпрыемства "Творчасць" на 40 тысяч рублёў аказала дапамогі дзіцячаму дыспансеру ў Бараўлянах. Матэрыяльную падтрымку адчулі многія школы-інтэрнаты, дзіцячыя дамы, шматдзетныя сем'і і маці-адзіночкі, мужы якіх загінулі ў Афганістане.

Л. ТУГАРЫН.

## 9 МАЯ – ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ

Мінула сорак шэсць гадоў, як завяршылася Вялікая Айчынная вайна. Даўно адбудаваны нашы гарады і вёскі, зараслі травой старыя акопы, але не можа сцерціся з нашай памяці ўвесь трагізм другой сусветнай. Па сваіму маштабу яна не мае аналагаў. У ёй спляліся ў адно цэлае і гераізм, і пакуты, і радасць цэлых народаў. Хаця галоўны цяжар вынеслі савецкія людзі. За вялікую перамогу заплацілі яны па вялікаму рахунку. У полымі вайны загінулі дзесяткі мільёнаў савецкіх людзей. Па волі лёсу ў самым цэнтры тых падзей, у самым горніле другой сусветнай аказалася наша Беларусь. Цяжка дакладна падлічыць, колькі яе сыноў і дачок сталі ахвярамі фашызму. Гісторыкі сцвярджаюць, што загінуў кожны чацвёрты. Магчыма, хаця і па сёння ўскрываюцца новыя факты, тая лічба ўдакладняецца. На жаль, не ў бок змяншэння. А хто з гісторыкаў дакладна падлічыў, колькі душэўных ран нанесла вайна! Колькі вас, паважаныя суайчыннікі, раскідала па ўсім белым свеце. І многія з вас і па сёння так ні разу і не прыехалі пасля вайны, бо няма да каго ехаць: нехта загінуў на фронце, нехта не дачакаўся Перамогі і вызвалення ў канцлагерах. Пройдуць гады, а памяць аб загінуўшых застанецца назаўсёды. І памяць, і напамін аб тых трагічных сараквых. Застануцца помнікі, як гэты ў беларускім пасёлку Нароўля, што вы бачыце на здымку. Кветкі ля іх 9 Мая нагадаюць, што памяць пра пакаленне пераможцаў жыве яшчэ ў народзе.



Фота. І. КУРМАНОВІЧА.

## ГОСЦЬ ГОСЦЮ РОЗНІЦА

# ПРЫГОДЫ "САВЫ"

Супрацоўнікі КДБ БССР зрабілі строгае папярэджанне грамадзянцы ЗША Вікторыі Мац аб недапушчальнасці з яе боку ўмяшання ва ўнутраныя справы СССР і БССР, парушэння статуса госця. Амерыканскай грамадзянцы афіцыяльна заяўлена, што, калі яна будзе ўмешвацца ў дзейнасць дзяржаўных і грамадскіх арганізацый рэспублікі, яе далейшае знаходжанне ў краіне стане непажаданым.

Вікторыя Мац прыехала ў Мінск з Лос-Анджэлеса па навуковаму абмену.

Хто ж яна? Нарадзілася у Ленінградзе. Разам з бацькамі ў 1976 годзе эмігравала ў Злучаныя Штаты, дзе закончыла Прыстанскі універсітэт па спецыяльнасці механік-электрык.

Як заявіў начальнік аднаго з упраўленняў Камітэта дзяржбяспекі рэспублікі А. Гайдукоў, канкрэтнай работай па спецыяльнасці Вікторыя не займалася. Яна наладжвала кантакты і шырокія знаёмствы ў Інстытуце ядзерных праблем пры ВДУ, вытворчым аб'яднанні імя У. І. Леніна, Беларускім экалагічным саюзе, у іншых грамадскіх арганізацыях.

Дазваляла сабе, мякка кажучы, не толькі залішнюю цікаўнасць, але і давала "карысныя" парады па арганізацыі забастовак, грамадскага непадпарадкавання. Вікторыя заявіла, што, хоць і з'яўляецца грамадзянкай ЗША, яе мэта — змяніць у СССР існуючую сістэму. І столькі нянавісці і злосці выказала наша госця, што нават работнікам КДБ, людзям, якія прывыклі да ўсяго, стала не па сабе.

Не лепшай думкі пра Вікторыю Мац і супрацоўнікі Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР, куды амерыканка "завітала" разам з Джонам Хоганам. У лабараторыі радыяцыйнай энергетыкі Джон Хоган зрабіў шэраг важных паведамленняў, прааналізаваў сабраныя матэрыялы, выступіў з дакладамі. Ён, на думку загадчыка лабараторыі Віталія Ганжы, высакакласны спецыяліст, сапраўдны вучоны.

— А вось што датычыць Вікторыі, — расказвае Віталь Лявонцьевіч, — то як аб спецыялісце пра яе нічога не магу сказаць, бо яна практычна нічога не зрабіла. Адразу ж заявіла, што "сава", прывыкла працаваць ноччу, раніцай у інстытут прыходзіць не можа, будзе з'яўляцца толькі ў другой палавіне дня і што бачыць сваю задачу ў тым, каб праз урадавыя органы рэспублікі садзейнічаць вырашэнню праблем па энергазберажэнню.

Доктар навук, загадчык кафедры радыяцыйнай хіміі Беларускага універсітэта прафесар Яўген Пятраеў знаёмы з Вікторыяй з верасня мінулага года. Нядаўна яна яму сказала: "Яўген Пятровіч, мяне ў хуткім часе выкінуць з Беларусі. Са мной гутарылі кагэбісты пасля таго, як хадзіла ў "стачкам". Прафесар пацікавіўся, навошта яна туды хадзіла, і Віка расказала яму, што скора ў Мінск прыедуць кінадакументалісты, і, калі ўдасца зняць добрыя кадры об забастоўцы, яна зможа на гэтым зрабіць свой асабісты бізнес. Вось і ўгаворвала Вікторыя стачкамаўцаў 26 красавіка, у дзень гадавіны Чарнобыля, правесці ў Мінску забастоўку, пасяджэнне стачкома, мітынг на плошчы і ўсё, што можна вельмі эфектна зняць.

Намеснік галоўнага інжынера аб'яднання "Беларусэнерга" леў Дубовік лічыць:

— Я перакананы, што гэта дзяўчына прайшла спецыяльную псіхалагічную падрыхтоўку. А спецыяліст яна нікуды не варты. Не думаю, што тут яна для таго, коб рабіць бізнес. Дзелавога чалавека перш за ўсё цікавіць справа. Відаць па ўсім: яна дакладна праінструктавана, як з кім сябе паводзіць. Не выключаю, што яна чалавек з "двайным дном" і найперш выконвае задачы іншай уласцівасці, чым тыя, што агавораны.

## ВІНШАВАННІ

**Уважаемые сотрудники Белорусского общества "Радзіма" и редакции газеты "Голас Радзімы"!**

**От имени группы "Русско-славянского культурного общества" поздравляем всех вас и весь советский народ с Международным праздником трудящихся — Первомаем и Днем Победы над фашистской Германией.**

**От всего сердца желаем вам, вашим семьям и всему советскому народу здоровья, счастья, благополучия и мира.**

**Большое спасибо за присылаемые газеты для нашего общества и поздравления.**

**С искренним уважением**

**Н. ЧЕРЕПАНОВА,**
**Н. ХРЕНКОВ.**

Австралия.

**Дорогие друзья!**

**Живя вдалеке от Родины, сердечно поздравляем редакцию "Голасу Радзімы", а также сотрудников общества "Радзіма" с праздниками весны и солнца 1 — Мая и Днем Победы над фашистской тьмой!**

**Желаем вам море счастья, здоровья и больших успехов в вашем благородном труде на благо человечества. Желаем отметить праздники с добрым здоровьем и веселым настроением.**

**Ваша соотечественница**

**Таисия**
**КУПЕРУС-МАРЧЕНКО,**
**наши дети,**
**внуки и близкие**
**из Нидерландов.**

**Глыбокапаважаны рэдактар!**

**Не крыўдуйце, калі ласка, што я такі быццам эканомны ў карэспандэнцыі. Хачу, карыстаючыся нагодай надыходзячага свята, пажадаць і вам, і ўсёй рэдакцыі "Голасу Радзімы" ўсяго найлепшага і пастаяннага павелічэння колькасці чытачоў вашай газеты.**

**Эканомам часценька ў жыцці з'яўляюцца час і ўмовы. Жадаю плёну ў развіцці культуры беларускага народа, а мой удзел у гэтай дзейнасці такі маленькі! Адно радуе, што Беларусь імкнецца ў напрамку адраджэння сваёй культуры, што мае яна шматлікіх здольных і адданых справе сыноў, каторыя з гонарам змаглі развеяць Багушэвічавы турботы і на ягоную перасцярогу сягоння могуць упэўнена сказаць: Беларусь будзе жыць! Хацелася б яшчэ, каб Беларусь як мага хутчэй вызвалілася і ад усяго таго, што прыносіць народу бяду і гора, каб народ зажыў згодна і шчасліва. Хай жа яна, такая мара, здзейсніцца.**

**Ваш верны чытач**

**А. МАЎЧУН.**

Польшча.

**Уважаемая редакция газеты "Голас Радзімы"!**

**Поздравляю с Международным праздником Первое мая 1991 года. Недалёк также и День Победы. Склоним в минутном молчании головы перед памятью тех, кто положил свою жизнь за освобождение и победу над коричневой чумой на нашей земле!**

**Долой фашизм! Да будет мир на нашей земле!**

**С уважением**

**Юрий РОССАДИНСКИЙ.**

Австралия.

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# СЛОВА ПРА ІОСІФА СТАБРОЎСКАГА



Археолаг. Краязнаўца. Гісторык. Вынаходца. Заснавальнік аднаго са старэйшых у рэспубліцы — Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея. Гэта наш зямляк Іосіф Стаброўскі. Менавіта пра яго сёння маё слова. Слова пра чалавека, які заслугоўвае на зямлі слонімскай самай вялікай пашаны і памяці. А памятаць пра таго, хто шмат добрага і карыснага зрабіў для сваіх людзей, мы развучыліся. Іосіф Стаброўскі дастойны, каб пра яго ведалі нашчадкі і землякі. І дастойны ён не толькі газетных радкоў, а помніка, назвы вуліцы ў Слоніме, і музей павінен насіць яго імя, бо гэта ягоны музей, якому аддаў ён больш чым палову свайго жыцця.

Нарадзіўся Іосіф Стаброўскі ў 1869 годзе ў Слоніме ў сям'і капітана Мурманскага пяхотнага палка, удзельніка гераічнай абароны Севастопаля ў вайне 1854— 1855 гадоў. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў членам-карэспандэнтам віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і членам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

І. Стаброўскі ўдзельнічаў у першай сусветнай вайне ў чыне палкоўніка. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў у Чырвонай Арміі. Але з цягам часу навуковыя інтарэсы ўзялі верх над прафесійна-ваеннымі, хоць Іосіф Іосіфавіч, як расказваюць блізкія яму людзі, да канца сваіх дзён не здымаў шыняля.

У 1921 годзе ён вяртаецца на радзіму і ўсе свае сілы, усё жыццё аддае даследаванню гісторыі роднага краю. Збірае ўсё, што, на яго погляд, мае гістарычную каштоўнасць. У калекцыі І. Стаброўскага былі такія экспанаты, якія маглі б упрыгожыць стэнды і залы найлепшых музеяў Еўропы: багатая калекцыя крамянёвых і каменных вырабаў часоў мезаліту і неаліту, галава старажытнаславянскага ідала, аўтографы Карамзіна, Дзяржавіна, Льва Талстога, два пісьмы Пушкіна да сваёй жонкі Наталлі Ганчаровай, гістарычныя рукапісы XVI—XVII стагоддзяў, Статут Вялікага княства Літоўскага, рэдагаваны Львом Сапегам, і многія-многія іншыя. Слонімцы расказваюць, што аднойчы, вяртаючыся дамоў, Стаброўскі стаў сведкам падзення метэарыта, які ўпаў непадалёку ад вёскі Азярніца. Пошукі працягваліся амаль паўстагоддзя, але метэарыт ён усё ж знайшоў і даставіў у музей.

Восенню 1924 года І. Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выстаўку старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Яна выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля закрыцця выстаўкі ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі заклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад наведвальнікамі ў верасні 1929 года.

Сапраўдны росквіт музей набыў толькі ў савецкія гады. Пасля вызвалення Слоніма Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года ён перайшоў на дзяржаўнае ўтрыманне. Жыхары горада і раёна ахвотна наведвалі музей. Дзякуючы Іосіфу Іосіфавічу, ён узбагаціўся дарагімі калекцыямі — мінералагічнай і палеанталагічнай, выстаўкамі па навуковаму атэізму і гісторыі, нумізматыкай, этнаграфічным матэрыялам, карцінай слыннага рускага мастака В. Верашчагіна, адзінаццаццю карцінамі слонімскага мастака А. Карніцкага, якога прафесар Маскоўскай акадэміі мастацтваў Барыс Рагушын назваў "другім Рэпіным". Набыў музей і шмат якія іншыя каштоўныя экспанаты...

У ваеннае ліхалецце многае з музейнай маёмасці стала ахвярай грабежнікаў-фашыстаў і іх прыслужнікаў. Аднак Стаброўскаму ўдалося частку экспанатаў схаваць, хаця гэта амаль не каштавала яму жыцця.

...Гітлераўскі афіцэр зайшоў у музей у той самы момант, калі Іосіф Іосіфавіч здымаў са сцяны адну з рэдкіх карцін Верашчагіна. Фашыст насмешліва тыцнуў пальцам у жывот сівому чалавеку і на дрэннай рускай мове сказаў:

— Рус гэта не разумель... Верашчагін месца ў Дрэздэн...

Стаброўскі паказаў фашысту фігуру з трох пальцаў...

Толькі праз два дні пасля гэтага Іосіф Стаброўскі ачуняў. Цудам пазбегнуў смерці.

Другім пацвярджэннем смеласці нашага земляка могуць служыць радкі з газеты "Советская Белоруссия" за 1944 год (№ 141): "Калі ў горад уварваліся гітлераўцы, перад Іосіфам Іосіфавічам паўстала пытанне — што рабіць з экспанатамі? Варвары ж могуць знішчыць усё, чаму аддадзена столькі гадоў жыцця... Трэба схаваць экспанаты. Але куды? Закапаць у зямлю — папсуюцца... І ўсё найбольш дарагое было схавана ў закрытыя шафы... Шафы Іосіф Іосіфавіч засунуў у далёкі кут пакоя... і закідаў рыззём. Аднойчы ён выйшаў на гарадскую плошчу. У гэты час гітлераўцы прывезлі на грузавіках і скінулі на брук тысячы тамоў кніг. "Спаліць!" — загадаў камендант. Уначы, не адчуваючы стомы, Стаброўскі цягаў мяшкамі кнігі дадому. Тады яму ўдалося схаваць у надзейным месцы тысячы тамоў, якія пазней былі перададзены раённай бібліятэцы".

На жаль, большая частка каштоўных экспанатаў, якія сабраў Стаброўскі, бясследна знікла са Слонімскага музея.

Пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў І. Стаброўскі зноў пачаў збіраць калекцыі, прыводзіць у належны стан рукапісы, кнігі, фатаграфіі і займацца абсталяваннем музейных пакояў... І кожны, хто яго ведаў, здзіўляўся працаздольнасці і настойлівасці гэтага чалавека, якому ўжо тады ішоў восьмы дзесятак гадоў.

Іосіф Стаброўскі быў не толькі выдатным археолагам і краязнаўцам, але і таленавітым гісторыкам і вынаходцам. Ім даследавана больш за 150 курганоў на Гродзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзесяткі артыкулаў па краязнаўству і гісторыі. Дарэчы, першы артыкул быў надрукаваны аж у 1899 годзе ў сакавіцкім нумары часопіса "Исторический Вестник". Ён меў назву "К вопросу об ископаемых стеклянных шарах".

Што датычыць вынаходства, то трэба зазначыць, што і яно было ў Стаброўскага. Асабліва знайшлі ў свой час прымяненне шрапнель і тэлефон канструкцыі нашага земляка...

Іосіф Стаброўскі пражыў нялёгкае, але доўгае жыццё. Памёр ён у 1968-м, тады яму ішоў 99-ты год.

***

Кожны год прыязджае з Крыма ў родны горад дачка І. Стаброўскага Дзіляра Іосіфаўна. Вось і летась яна зноў завітала ў бацькаву хату. У час гутаркі з ёю я шмат новага даведаўся пра Іосіфа Іосіфавіча. З асаблівай цеплынёй і чуллівай радасцю Дзіляра Іосіфаўна расказала пра шчырае сяброўства яе бацькі з генералам Я. Леапэнем, былой супрацоўніцай музея Н. Гайдук, паэтам С. Новікам-Пеюном і многімі іншымі апантана-ўлюбёнымі ў родны край людзьмі...

**Сяргей ЧЫГРЫН.**





**Вучыцца ў гэтай школе дзецям у радасць. І можа быць таму, што не націскаюць на іх строгія настаўнікі, дрэнныя адзнакі, а заняткі праходзяць у займальнай форме, хлопчыкі і дзяўчынкі хутка і лёгка засвойваюць англійскія словы, ахвотна спяваюць і танцуюць, непаўторна перадаюць у малюнках сваё ўспрыняцце навакольнага свету.**

**Школа гэта не звычайная, а нядзельная, эстэтычнага выхавання. Адкрылася яна ў мінскім мікрараёне Уручча і ставіць сваёй задачай далучыць дзяцей да прыгожага, дапамагчы раскрыцца здольнасцям да творчасці.**

**НА ЗДЫМКАХ: цікава малым на ўроках англійскай мовы ў выкладчыка Вольгі КРЭТАВАЙ; урок танцаў.**

**Фота В. ТАЛОЧКІ.**

## *СЛАВЯНСКІЯ АСПЕКТЫ ВІЛЕНСКАЙ КАТАСТРОФЫ*

# І. ДЗВЕ ЛІТВЫ

Мы знаходзімся пад уражаннем студзеньскіх падзей у Вільнюсе. Гэтая трагедыя часоў перабудовы заклікае не толькі да спачування і смутку па бязвінных ахвярах сённяшняга Вільнюса, але і да памяці пра Вільнюс, які больш за 500 гадоў быў сведкам трагічных падзей нашай уласнай гераічнай і крывавай гісторыі, з'яўляючыся цэнтрам палітычнага, культурнага, нацыянальнага і духоўнага жыцця беларускага народа. Цяпер мала хто ў нашай краіне ведае, што горад Вільнюс — гістарычная Вільня — на працягу ўсёй сваёй шматвяковай гісторыі, аж да 1940 года, з'яўляўся палітычным і культурным цэнтрам з перавагай славянскага насельніцтва. У Польшчы гэта вядома кожнаму. Забыццё вялікага значэння Вільні ў гісторыі і культуры славянскага свету і ў трагічным лёсе беларускага народа абумоўлены шэрагам акалічнасцей як палітычнага характару — перадачай Літве ў 1939 годзе горада Вільні і краю (у выніку сакрэтнай змовы паміж Сталіным і Гітлерам), так і гістарычных, што ідуць у глыб стагоддзяў.

Гістарычныя прычыны звязаны, у першую чаргу, са стратай беларускім народам дзяржаўнасці, што, разам з блізкасцю беларускай мовы да рускай і польскай, садзейнічала паступовай дэбеларусізацыі (паланізацыі, русіфікацыі) магнацкага і шляхецкага саслоўяў, а таксама гарадскога насельніцтва.

А хто, як не лепшыя прадстаўнікі гэтых саслоўяў і гарадскіх жыхароў, з'яўляўся выразнікам агульнадзяржаўных і нацыянальных ідэй у іх гістарычнай пераемнасці?

Вынікам гэтых трагічных умоў гістарычнага існавання нашага народа стала не толькі страта гістарычнай памяці, але і магчымасць беспакаранай фальсіфікацыі гісторыі з боку зацікаўленых і агрэсіўных сіл суседніх дзяржаў. Гэтыя ж умовы выклікалі і з'явы, што не мелі аналагаў у гісторыі іншых народаў (магчыма і Еўропы): “небеларускія гарады Беларусі“ і “нараджэнне“ ў другой палове XX стагоддзя “новага“ этнасу — “тутэйшыя“ палякі Віленшчыны і шэраг іншых.

Разуменне такіх “адкрыццяў“ можа быць дасягнута толькі пры разглядзе даўгачасных гістарычных працэсаў і высвятленні дзеючых сіл і герояў процiборства на беларускай зямлі. Аднак аб'ектыўны аналіз не можа быць зроблены пры арыентацыі на імперскія канцэпцыі, што захаваліся да сённяшніх дзён і выявілі сябе ў скрытай ці яўнай форме ў гістарыяграфіі, паліталогіі і публіцыстыцы не толькі суседніх народаў, але і ў самой Беларусі. Аналіз гісторыі славяна-літоўскіх адносін важны не толькі для разумення ўмоў, у якіх апынуўся беларускі народ у XX стагоддзі. Ён неабходны не толькі для матывацыі і правільнай ацэнкі перадваеннай палітыкі СССР, Польшчы і Літвы, але і для абгрунтавання і выбару даўгачаснай палітыкі, да якой трэба было б звярнуцца Цэнтру і Расіі ва ўмовах распаду унітарнай дзяржавы.

### ІДЭАЛАГІЧНЫ "ФУНДАМЕНТ" ЭКСПАНСІІ

Як сведчыць гісторыя, беларускі народ і яго землі на працягу стагоддзяў знаходзіліся ў эпіцэнтры інтарэсаў супрацьборствуючых бакоў (Польшчы — Расіі), кожная з якіх імкнулася не толькі да тэрытарыяльнай, але і да этнічнай экспансіі. Барацьба, пачатая на ратным полі, падпарадкавала сабе ідэалагічную, рэлігійную, культурную і палітычную сферы. Для апраўдання палітыкі экспансіі абодва бакі на працягу доўгага часу прапагандавалі “фундаментальны“ тэзіс аб тым, што няма ні беларускай мовы, ні беларускага народа, а ёсць дыялект і частка “вялікага народа“ — польскага і рускага. Гісторыя XX стагоддзя, як гаворыцца, “само жыццё“ даказалі беспадстаўнасць гэтай па сутнасці каланіяльнай дактрыны. Аднак да гэтага часу захаваліся канцэпцыі і схемы апісання гістарычных працэсаў, якія базіруюцца на такім “фундаменце“.

І сёння канцэптуальная сістэма, ужо адарваная ад “фундаментальнай“ ідэі, якая нарадзіла яе, усё яшчэ вызначае палітыка-гістарычныя погляды шырокай грамадскасці (уключаючы навуковую) не толькі за межамі Беларусі. Больш таго, канцэпцыя, сфарміраваўшыся ў рамках праваслаўна-самадзяржаўнай ідэалогіі ў імперскай Расіі, атрымала ў СССР, дзякуючы манаполіі Цэнтра ў сферы ідэалогіі, статус “адзіна навуковай“, якая процістаіць “псеўданавуковым“ буржуазна-нацыяналістычным тэорыям. Такім чынам, ідэалагічныя стэрэатыпы пераможцаў, навязаныя (а як жа інакш!) пераможанаму народу, паступова ператварыліся ва “ўласныя“ погляды гэтага народа. З гэтай мэтай робіцца своеасаблівая тэрміналагічная “маскіроўка“: акупацыя называецца ўз'яднаннем, захаванне сваёй мовы і культуры — нацыяналізмам, глабальная велікаруская духоўная экспансія — узбагачэннем нацыянальнай культуры беларускага народа.

Кожны з проціборствуючых бакоў меў вялікія людскія і матэрыяльныя магчымасці для “падтрымкі“ і прапаганды сваіх поглядаў на гісторыю беларускага народа, а беларускія гісторыкі на працягу стагоддзяў былі пазбаўлены магчымасці незалежнага даследавання.

Разняволенне грамадскай свядомасці, якое адбываецца сёння, адкрывае магчымасць для перагляду навязаных раней імперскіх ідэалагічных стэрэатыпаў і догмаў, што немагчыма без аналізу асноўных паняццяў, якія выкарыстоўваюцца для апісання ўзаемадзеяння нашага народа з суседнімі дзяржавамі — Расіяй і Польшчай. (Хачу звярнуць увагу, што гэта тычыцца дзяржаўных структур, а не крэўных дружалюбных сувязей славянскіх народаў. На жаль, роднасць і блізкасць народаў таксама скарыстоўваліся ў гісторыі кіруючай элітай для апраўдання па сутнасці справы іх каланіяльных і імперскіх мэт).

Адмаўляючыся ад паняццяў, што сфарміраваліся ў праваслаўна-імперскіх і польска-каталіцкіх колах, мы фактычна пераходзім на сучасную мову апісання, уласцівую для гісторыі і паліталогіі XX стагоддзя, з адпавядаючай ёй сістэмай паняццяў, каштоўнасцей і агульнапрынятых вызначэнняў, такіх, як агрэсія, акупацыя, экспансія, генацыд, духоўны і дзяржаўны суверэнітэт, правы чалавека і народаў і г. д.

### ЦІ СЛАВЯНСКАЯ ДЗЯРЖАВА ВКЛ?

Катэгарычнае адмаўленне “фундаментальнай“ польска-рускай каланіяльнай ідэі “аб небыцці беларусаў“ (уключаючы схаваныя і неўсвядомленыя формы) і пераход на адэкватную мову апісання гістарычнага працэсу з'яўляюцца неабходнымі перадумовамі для далейшага аналізу. Трэці зыходны момант, які ляжыць у аснове данага разгляду — наша прыхільнасць факту (ёсць праціўнікі і ў фактаў! Для іх супакаення можна выкарыстаць тэрмін-гіпотэзу. Яна пацверджана ў многіх даследаваннях), што “быццё“ нашага народа спарадзілі дзве моцныя дзяржавы: Полацкае княства і яго пераемнік і прадаўжальнік Вялікае княства Літоўскае, рускае і жамойцкае (ВКЛ). Такая яго поўная і правільная назва. І няхай вас не бянтэжаць словы літоўскае і рускае — менавіта так звалі нашых продкаў у сярэднявеччы, і не трэба блытаць гістарычных ліцвінаў і сучасных літоўцаў (жамойтаў).

Летапісы не ўтрымліваюць даных, што пацвярджаюць распаўсюджаны міф аб заваяванні балтамі беларускіх зямель і аб іх галоўнай ролі ва ўтварэнні ВКЛ. Наадварот, маюцца сведчанні, што шматлікія набегі на нашу зямлю заканчваліся для агрэсараў праследаваннем і разгромам. Ні ў адной крыніцы XII—XIV стагоддзяў няма даных аб заваяванні славян літоўцамі (міфы, што прыкрываюць палітычныя мэты зацікаўленых бакоў, з'яўляюцца значна пазней)*. Не выпадковым было і тое, што сталіца беларускага княства Навагародак стала першай сталіцай ВКЛ. Заснаваны Яраславам Мудрым як фарпост славянскага прасоўвання на поўнач, Навагародак у сярэдзіне XIII стагоддзя ў сілу зручнага геапалітычнага становішча ператварыўся ў буйны эканамічна развіты і багаты горад. У гэты ж час выспяваюць эканамічныя і палітычныя ўмовы аб'яднання беларускіх зямель у адзіную дзяржаву. Аднак паміж двума галоўнымі беларускімі праваслаўнымі княствамі Навагародскім і Полацкім знаходзіліся землі язычніцкай і, магчыма, яшчэ не славянізаванай Літвы летапіснай. (Асіміляцыя балцкіх плямёнаў на Полацкіх землях завяршылася раней). Аб яе размяшчэнні ў самым сэрцы Беларусі паміж Навагародкам і Мінскам, гэта значыць на поўдзень ад сучаснай Літвы, сведчаць даныя тападынамікі і старажытныя летапісы. Не выключана, што гэта было балцкае ці угра-фінскае племя на пачатковай стадыі асіміляцыі, аднак у нямецкай хроніцы XIII стагоддзя (Гекбардзі) указваецца, што літва — славяне, якія прыйшлі з берагоў Дуная. Становішча летапіснай Літвы ў гушчыні беларускіх зямель з'яўлялася для яе ракавым і прадракала непазбежную асіміляцыю яе насельніцтва і знікненне летапіснай Літвы пры любым павароце гістарычных падзей. У выпадку аб'яднання Навагародка з Полацкам гэты працэс значна паскараўся. Княжацкая раз'яднанасць запавольвала тэмпы асіміляцыі, не спыняючы яе. У канкрэтных геапалітычных умовах славянізацыя закранала, у першую чаргу, княжацкія роды ў сілу распаўсюджаных у сярэднія стагоддзі міждынастычных шлюбаў, у сілу геасацыяльнай мабільнасці князёў, якія ўдзельнічаюць у сумесных паходах, бітвах, перагаворах, а таксама запрашэнняў іх у якасці наёмнікаў. Да славянскіх суседзяў і ратных сатаварышаў уцякалі шматлікія прэтэндэнты на вярхоўную ўладу з летапіснай Літвы, ратуючы сваё жыццё ад бязлітасных уладарных родзічаў. Дзякуючы такому цеснаму славяна-балцкаму перапляценню людзей і лёсаў стала магчымым выбранне “літоўскіх“ князёў (уцекачоў і запрошаных) на княжацкія пасады ў славянскія землі (Пскоў, Навагародак, Смаленск і г. д.). Бралася пад увагу не толькі сваяцтва і ваенны вопыт, але і ўдзел у палітычнай гульні з прычыны законных правоў збеглага князя на пакінутую ім радзіму і прагу помсты. Выгнаны з Літвы Міндоўг бяжыць у Навагародак, прымае праваслаўе (1246 год) і цяпер ужо на чале Навагародскага войска пакарае Літву “враждою бо за ворожбство с ним Литву занял“ (Іпацьеўскі летапіс), выганяе і забівае сваіх сапернікаў. Гэты першы крок у справе ўтварэння ВКЛ, выкананы з дапамогай Міндоўга, прыводзіць да росту магутнасці Навагародка. Навагародак выйграе саперніцтва з Полацкам, і ніхто не зможа пасля спыніць працэс збірання беларускіх зямель і далучэння суседніх.

Як бачым, нашы продкі пераўзыходзілі нас не толькі ва ўменні выбіраць месцы для будаўніцтва храмаў і гарадоў, але і ў дальнабачнасці і гібкасці праводзімай імі палітыкі. Княжацкая раздробленасць рабіла абстаноўку такой складанай і нестабільнай, што непрадуманае і памылковае рашэнне магло стаць ракавым для князя і яго народа. Палітыка непазбежна становіцца асноўнай зброяй, інтэнсіўнае выкарыстанне якой і даводзіць яе стратэгаў да забытай намі дасканаласці. (Недальнабачнасць славянскай палітыкі XX стагоддзя дэманструецца ў Еўропе і ў Прыбалтыцы, да чаго мы яшчэ вернемся ў заключным раздзеле артыкула).

Пачатае Міндоўгам будаўніцтва ВКЛ працягвае яго сын Войшалк. Дасягнутае ім аб'яднанне беларускіх земляў паскарае асіміляцыю апошняга “іншароднага“ астраўка — у гушчыні беларускага этнасу паглынаецца і знікае летапісная Літва. (Войшалк знішчае літоўскіх князёў, а таксама заваёўвае балцкія землі, што мяжуюць на поўначы і паўночным захадзе з беларускімі і з заваяванай раней Літвой). Але назва Літва застаецца за гэтай тэрыторыяй і ўваходзіць у назву новай дзяржавы. Больш таго, яна “расшыраецца“ (падобнае вядома ў гісторыі — Прусія — прусы, Францыя — франкі і г. д.) і пераходзіць на іншыя заходнія беларускія землі і на Віленшчыну і Вільню, а затым у XIX стагоддзі і на жамойцкія землі. Рускі гісторык Надзеждзін у сувязі з гэтым адзначыў: “Перамагла не Літва, а назва Літвы“. Падобны дрэйф адбыўся і з імем другога балцкага народа — прусы. Племя знікла, імя яго засталося і перайшло на пакарыўшых Прусію немцаў, а затым распаўсюдзілася на ўсходнюю частку самой Германіі, уключаючы Берлін.

У XX стагоддзі назва “Літва“ была выцеснена з тэрыторыі Беларусі. Яна захоўваецца толькі за жамойцкімі землямі (і на Віленшчыне).

Прыведзеная намі канцэпцыя ўтварэння ВКЛ (абгрунтаванне ў кнізе М. Ермаловіча “Па слядах аднаго міфа“) супярэчыць шырока распаўсюджанаму міфу аб заваяванні беларускіх земляў Літвой. Стварэнне і распаўсюджанне гэтага міфа абумоўлена палітычнымі інтарэсамі проціборствуючых у рэгіёне сіл, якія выкарысталі для апраўдання сваіх прэтэнзій розныя метады, уключаючы адпаведныя запісы ў позніх летапісах. Аднак аналіз ранніх летапісных звестак і таксама дадатковых крыніц дазваляе выявіць фальсіфікацыю і даць навуковае апісанне гістарычнага працэсу. Варта адзначыць, што захаванне міфа аб заваяванні адпавядала імперскім інтарэсам суседніх дзяржаў: Польшчы і асабліва Расіі, якая выступала ў ролі вызваліцеля паўночна-заходняга краю (Беларусі).

Аднак для доказу славянскага характару ВКЛ няма неабходнасці ў дэталёвым разглядзе працэсаў яго ўзнікнення, спосабаў далучэння беларускіх і балцкіх земляў і ролі асобных князёў. Асноўнымі фактамі (незалежна ад ацэнкі ролі Літвы ў аб'яднанні беларускіх земляў) з'яўляецца нацыянальны склад гэтай дзяржавы, мова і культура (за 500 гадоў існавання ВКЛ не зафіксавана ніводнага ўказа, ніводнага радка, ніводнага слова, у тым ліку і князёў, на літоўскай мове). Відавочна, што нашчадкі балцкіх магнатаў маглі прэтэндаваць у ВКЛ на некаторую ролю на ўмовах саюза са славянскімі родамі, валодання беларускай мовай, служэння агульнадзяржаўным мэтам. Спосабы іх вылучэння ў вышэйшыя эшалоны дзяржаўнай іерархіі ВКЛ былі тыповымі для сярэднявечча. Гэта выбары ці наём на службу вопытнага воіна, уключаючы князя, сваяцкія шлюбы паміж старажытнымі родамі і г. д. Яны ўваходзілі ў гэты саюз не на падставе пакарэння і заваявання беларускіх гарадоў і земляў, а ў выніку прыняцця імі славянскай культуры і мовы і ў выніку служэння інтарэсам нанімаючай іх ці выбіраючай большасці і сваяцкіх кланаў. Працэс такой “інфільтрацыі“ аблягчаўся існуючай у Еўропе традыцыяй міжнацыянальных шлюбаў сярод прадстаўнікоў вышэйшых саслоўяў, уключаючы праўячыя дынастыі. Не было перашкоды такой “здрадзе“ нацыянальных ці дзяржаўных інтарэсаў з-за хуткай і непазбежнай асіміляцыі пародненага магната і яго нашчадкаў. Поўная асіміляцыя больш характэрная для ўсіх правячых “чужых“ дынастый, у прыватнасці Рурыкавічаў у Расіі і Гедымінавічаў у ВКЛ, славянізацыя якіх была непазбежная з-за моўнай, культурнай і этнічнай асіміляцыі. Другі прыклад — паланізацыя дынастыі Ягелонаў, якая ўсталявалася на польскім прастоле пасля выбару сеймам каралём Польшчы беларуска-язычніцкага князя Ягайлы з Вільні.

Дамінуючая роля нашых продкаў адлюстравана не толькі ў назве княства, але і ў дзяржаўнасці, а значыць паўсямесным распаўсюджванні беларускай мовы і ў нацыянальным складзе ўсіх слаёў насельніцтва (славяне да 90 працэнтаў).

Аб іх ролі сведчыць і тое, што большасць пасад, уключаючы і вышэйшыя дзяржаўныя, займалі выхадцы з беларускіх земляў. З іх складалася і бліжэйшае акружэнне Вялікага князя. Так, нямецкія летапісы змяшчаюць запісы аб тым, што на перагаворах з крыжаносцамі ў Соліне ў дэлегацыю ВКЛ разам з Вялікім князем Вітаўтам (1350—1430) уваходзілі князі: Юрый Пінскі, Міхаіл Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Гальшанскі, Іван Друцкі. Як сведчыць нямецкі пасол Кірбут, Вітаўт і ўсё яго акружэнне размаўлялі толькі па-беларуску.

Можна працягваць спіс фактаў, якія пераканаўча сведчаць, што “дзяржаўнае жыццё ВКЛ праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах“ (М. Багдановіч) і што славянскі характар княства ўяўляецца не менш пераканаўчым, чым Расіі.

**Віктар СІЎЧЫК.**

---

* М. Ермаловіч. “Старажытная Беларусь“, Мінск, 1990, стар. 364.

*ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ*



# НАТАЛЕННЕ АКЦЁРСКАЙ СМАГІ

Нават хлеба з мякінаю, з колкімі і гаркаватымі асцюкамі не даводзілася яму есці ўволю, а пасля Каляд хлеб і зусім знікаў са стала. Паратункам была тады нішчымная бульба. І толькі ў нядзелю ці якім святам цешыліся чым-небудзь з назбіранага летам у лесе.

Бацькі Пятра Алейнікава жылі у малой вёсачцы Крывель, затуленай барамі ды хмызамі. Гэта Шклоўшчына Магілёўскага павета. Людзі яны былі сумленныя і працавітыя, але як вырасці таму хлебу на зыбучых пясках невялікага надзелу? Малазямельных, вельмі бедных сялян было тут так многа, што не толькі рамеснікі — шаўцы і краўцы, але нават і жабракі міналі лясныя і польныя сцежкі да гэтай вёскі.

Калі Пецю бралася на шосты год, памёр бацька. Працуючы лесасплаўшчыкам на Дняпры, ён зваліўся ноччу з плыта ў сцюдзёную асеннюю ваду, надоўга захварэў і ўжо не падняўся з пасцелі. Маці, малы Пеця і старэйшыя двое дзяцей асталіся бездапаможныя ў асірацелай хаце.

Надышлі страшныя дні. Не было чаго есці, абнасілася адзенне, дабіўся абутак. Не знайшоўшы іншага ратунку, маці ахвяравала дзвюма даматканымі посцілкамі: з аднае пашыла малодшым дзецям кашулі, з другой — торбы. Пасля, абліваючыся слязьмі, вывела за вёску, на скрыжаванне дарог. Тройчы перахрысціла іх і адпусціла ад сябе ў свет. Маленькі Пеця і мала старэйшая за яго сястра Каця зазналі шмат пакут і сіроцкага адчаю. Гадкі праз два хлопчык астаўся адзін. Сястра вярнулася дамоў. Яна падрасла і ўжо ўпраўлялася з рознай хатняй працай. Стала надзейнай памочніцай у маці.

А Пеця па-ранейшаму беспрытульнічаў у Шклове. Хлопчык быў рахманы, ціхі і сарамлівы. Блуканні па вёсках і паселішчах, сустрэчы з рознымі людзьмі, знаёмства з іх побытам і звычаямі ўзбагацілі хлопца веданнем жыцця, пашырылі яго прыродную назіральнасць.

Надышоў час, калі дзеці Пецевага ўзросту пайшлі ў школу. Тады добрыя людзі ўладкавалі і яго на дзяржаўны кошт у Шклоўскую школу-інтэрнат. Хлопчык аж свяціўся ад радасці і хутка вызначыўся як самы старанны і здольны вучань. Але знайшоўся нейкі надобразычлівец і напісаў начальству, што, маўляў, жыць і харчавацца ў інтэрнаце дазваляецца толькі поўным сіротам, а Алейнікаў утаіў, што ў Крывялі, за восем кіламетраў ад Шклова, у яго ёсць маці і што яна, хоць і хворая, але жывая. Заява падзейнічала. Хлопчыка выкраслілі са спісу ўтрыманцаў. Ён ізноў апынуўся б на вуліцы, каб не адзін стары настаўнік, па ініцыятыве якога былі сабраны сякія-такія грошы.

Кожную суботу пасля ўрокаў Пеця бегаў найкарацейшай сцежкай праз лес у Крывель па харчы. У нядзелю гасцяваў дома, а ў панядзелак, каб не спазніцца ў школу, яшчэ на досвітку тым жа шляхам вяртаўся ў Шклоў. Пасля неўрадлівага лета ўвосень і зімою ён яшчэ трымаў сувязь з Крывялём, а вясною перастаў турбаваць сваіх родных, бо і самі яны былі галодныя. Пачаў шукаць заробку. Траплялася — дроў насячэ якой-небудзь кабеце, падмяце дворык, наносіць вады ў кадушку, паганяе коней у малатарні. Падзёнка знаходзілася ўсё часцей і прыпадала якраз на тыя гадзіны, калі трэба быць у школе. Неяк яму "пашчасціла" наняцца нянькай, і тады ён ужо зусім не хадзіў на заняткі.

Зноў пачыналася лета — тая прыемная і жаданая пара, калі "кожны кусцік начаваць пусціць". Вечарамі ён кіраваўся ў парк, чакаючы кінасеанс. Фільмы паказвалі ў былым панскім маёнтку. Білет каштаваў танна, але што будзеш рабіць, калі за душою няма нават капейкі. І ўсё ж ён не прапускаў ніводнай кінакарціны. Яго ахвотна прапускалі, бо хлопец згаджаўся круціць нялёгкую кінамашыну.

Паланілі яго душу фільмы з удзелам Чарлі Чапліна, Пата і Паташона, Ігара Ільінскага і іншых сусветных комікаў. Пэўны час любімыя артысты здаваліся яму недасягальнымі асобамі, якія жывуць недзе ўдалечыні, адначасова і зусім побач, на белым экране. Але гэта не замінала яму трапна капіраваць сваіх улюбёных герояў пад гучны рогат людзей. Ён весела разыгрываў жартоўныя сцэнкі, убачаныя ў фільмах, і выдумляў свае тут жа, на вачах публікі. Пра яго ўменне весяліць людзей ведалі ўсюды, дзе яны ўдваіх з механікам паказвалі кіно. Яго прасілі, каб ізноў паказаў тое, што і ў мінулы раз. Але ён ніколі не паўтараўся, прыдумваючы новыя жартоўныя сцэны і камедыйныя антраша. Паказвалі прызнаны камедыйны фільм "Пацалунак Мэры Пікфард". У галоўнай ролі — Ігар Ільінскі. Пеця ўпершыню ўбачыў яго на экране і адразу захапіўся славутым комікам — надзвычай таленавітым рускім артыстам. Ён жыў і дыхаў Ігарам Ільінскім, пераймаў яго творчую манеру і паводзіны.

...Чыгуначнікі Шклова адзначалі Кастрычніцкае свята і папрасілі Пецю паказаць "сваё прадстаўленне". І ўсе пазналі ў ім Ігара Ільінскага. Людзі абкружылі яго пасля:

— Ой, аж жывот забалеў ад смеху... Ты, браце, можаш падмяніць Ігара Ільінскага і каго захочаш!

Нехта запярэчыў:

— А навошта? Няхай бы той падвучыў гэтага, і былі б кожны па сабе.

І яшчэ голас:

— А што вы думаеце, каб пра яго даведаўся Ігар Ільінскі, адразу забраў бы да сябе ў вучні... Падрастай, Пятро, і гадкі праз тры шыбуй да Ільінскага.

Пятро сарамліва ўсміхаўся і маўчаў. Баяўся нават думаць пра тое, што зможа выйсці на шырокія прасторы жыцця і артыстычнай творчасці.

...І зноў восень. Дзеці вучацца ў школе, а Пеця блукае па вуліцах. За час летніх вандраванняў з кінамеханікам ён адстаў ад вучобы і жыў у палоне адзінага захаплення — кіно. Надумаўся быў паехаць у Маскву. Чакаючы поезда, падзяліўся сваёй марай са знаёмым настаўнікам, што кіраваўся ў Оршу. Настаўнік не параіў яму ехаць і запэўніў, што ў Маскве не будуць і гаварыць з ім, калі даведаюцца, што ён не мае агульнай адукацыі. Хоча ён ці не хоча, а мусіць скончыць школу. Пеця надта замаркоціўся, занепаў духам. У Маскву ён не паехаў і жыў, як і раней, у зачараваным коле прывычнага бадзяжніцтва.

Але вольнае жыццё скончылася. Беспрытульны хлопец трапіў у Аршанскі дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік, а адтуль яго адправілі на перавыхаванне ў Барсукоўскую дзіцячую калонію. Тут Пеця аднавіў вучобу, а таксама вучыўся сталярнічаць, цяслярыць і слясарыць у добрага майстра. Неўзабаве ён сабраў аматараў драматычнага мастацтва. Яны самі рыхтавалі дэкарацыі, шылі касцюмы, рабілі парыкі, грым, бутафорскія рэчы. Спектаклі ставілі ў калоніі, у школах і клубах навакольных вёсак.

З Барсукоўскай калоніі яго накіравалі ў Магілёў у 1-ю ўсебеларускую камуну імя Дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пад кіраўніцтвам Пеці драматычны гурток камуны хутка набыў папулярнасць у горадзе. Камунары выступалі ў рабочых і вайсковых клубах, выязджалі ў суседнія вёскі і мястэчкі. Пеця іграў камедыйныя ролі. Гледачы весела смяяліся не толькі ў часе дзеяння, але і назаўтра, успамінаючы яго сцэнічныя ўдачы. Акрылены прызнаннем, Пеця Алейнікаў захапляецца мастацкім чытаннем. Завучыў на памяць шмат вершаў Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы. Пазней, у дзевятым класе, захапіўшыся "Тарасам на Парнасе", ён вывучыў усю паэму. Чытаў яе на канцэртах і тады, калі стаў вядомым савецкім кінаартыстам.

Жывучы ў камуне, ён сустрэўся з чалавекам, які канчаткова пераканаў яго смела ісці наперад, на заклік прызвання. Пятро Марцінавіч расказваў: "У 1928 годзе да нас, у Магілёў, прыехала драматычная трупа пад кіраўніцтвам заслужанага артыста РСФСР Кумельскага. Выхаванцы 1-й усебеларускай камуны імя Дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі пайшлі да Кумельскага цэлай дэлегацыяй і ўпрасілі яго паглядзець нашу клубную самадзейнасць. Я яшчэ ніколі так не хваляваўся, хоць выступаў не ўпершыню. Ішла двухактовая п'еса "Краб" цяпер ужо забытага аўтара. Гледачы — нашы таварышы - камунары выказвалі сваю ўвагу шумна і разнастайна: пляскалі ў далоні, тупалі нагамі, падымаліся з лавак, крычалі "біс"! Мы стаялі за зачыненай заслонай і стомлена ўсміхаліся адзін аднаму, парыкі нашы паз'язджалі набок, грым параставаў на тварах.

— Пеця! Алейнікаў! Цябе, цябе пытаюць! — звонкі хлапечы голас клікаў мяне за кулісы.

Насустрач з канапы ў цесным, ярка асветленым пакойчыку — нашай агульнай грымёрнай, падняўся невысокі шыракаплечы чалавек і падаў мне вялікую мяккую руку.

— Добры вечар!.. Кумельскі!

— Вам трэба вучыцца! — раптам сказаў ён. — Абавязкова вучыцца. Шмат, упарта. З вас можа атрымацца сапраўдны акцёр.

І тады я падзяліўся з артыстам самым запаветным,тым, пра што ніколі і нікому ў камуне не гаварыў.

— Мне вельмі хочацца быць артыстам, але толькі не ў тэатры, а ў кіно. Здымацца ў кінафільмах — вось мая самая вялікая мара.

З клуба мы выйшлі разам. Падаў першы снег, буйны, мяккі. Я пайшоў праводзіць Кумельскага да гасцініцы, дзе артыст спыніўся. Раптам ён зрабіўся самым блізкім і дарагім мне чалавекам."

У 1930 годзе, скончыўшы сярэднюю школу, Пятро Алейнікаў прыехаў у Ленінград і падаў заяву ў інстытут сцэнічных мастацтваў. Там быў вялікі конкурс. З тысячы падаўшых заявы трэба было выбраць сорак чалавек. Члены экзаменацыйнай камісіі прапанавалі Пятру выканаць на памяць літаратурны твор, які яму найбольш падабаецца. Ён пачаў чытаць па-беларуску. Загучалі энергічныя радкі з паэмы "Тарас на Парнасе". Чытаў Алейнікаў лёгка і натуральна, нібы расказваў пра ўбачанае, нядаўна перажытае. Добрае адчуванне гумару памагала арганічна перадаваць яго ў чытанні. Захоўвалася і нацыянальная танальнасць, і народныя інтанацыі твора. Зацікаўленыя экзаменатары прыхільна ўсміхаліся, раз-пораз пазіраючы адзін на аднаго.

— Вы намалявалі нам, як Тарас неспадзявана натрапіў на мядзведзя, а цяпер уявіце, што вось тут, вакол нас, — лес, вы спакойна збіраеце грыбы. Раптам убачылі: з-за дрэва, на задніх лапах, проста на вас сунецца мядзведзь.

Экзаменатары пільна сачылі за выкананнем эцюда.

Спачатку ён збіраў грыбы і складваў ва ўяўны кошык. Потым павольна паходжваў, прыглядаўся, але нічога не знаходзіў. Астыў да справы і... Раптам залюбаваўся нейкай птушачкай на дрэве. Убачыў, як яна скокнула з галінкі і схавалася ў густой лістоце. Вось ізноў успырхнула птушачка, ён сочыць за яе палётам, а калі яна ўжо знікла ў вышыні, Пятро апусціў галаву: перад ім стаяў вялізны мядзведзь. Растаптаўшы кошык з грыбамі, мядзведзь падняўся на ўвесь рост і зрабіў крок да Пятра. Перапуд Пятра, яго азіранні і ўцёкі былі паказаны дакладна і пераканаўча.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**(Працяг будзе )**

## САМАДЗЕЙНАСЦЬ НАВАПОЛАЦКА



**Любяць жыхары Наваполацка канцэрты, дзе выступаюць самадзейныя калектывы гарадскога Палаца культуры. Асабліва цёпла прымаюць гледачы артыстаў цырка "Юнацтва", ансамбля эстраднага танца "Нюанс", узорных калектываў "Камарыкі" і "Менуэт". На сцэне сельскага клуба і прафтэхвучылішча, а то і ў заводскім цэху гучаць апладысменты самадзейным артыстам.**

**НА ЗДЫМКАХ: на сцэне — ансамбль эстраднага танца "Нюанс"; выступае артыстка самадзейнага цырка "Юнацтва" Вольга КУДРАЎЦАВА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**



# ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ,

## або ТРЫ СЮЖЭТЫ "ПОВЕСТИ ВРЕМЕННЫХ ЛЕТ"

У апошні час усё часцей увагу даследчыкаў і пісьменнікаў прыцягваюць амаль легендарныя постаці вельмі далёкіх ад нас стагоддзяў — эпохі Кіеўскай Русі, Полацкага княства, постаці тых, хто стаяў ля вытокаў драматычных і ў многім незвычайных па зместу падзей X—XI стагоддзяў. Сярод іх — Рагвалод, Рагнеда, Ізяслаў, Усяслаў-"чарадзей". Чым вабяць да сябе, чаму прымушаюць думаць і разважаць аб часе іх жыцця гэтыя людзі? На наш погляд, ёсць дзве прычыны гэтай цікавасці. Папершае, вобразы першых полацкіх правадыроў дайшлі да нас у вельмі рамантызаваных і ўпрыгожаных легендах. Мы ж міжвольна імкнёмся надаць ім яшчэ больш узвышаны сэнс, бо бачым у іх яскравы прыклад самаадданасці, патрыятызму і служэння інтарэсам роднай зямлі. Па-другое, зварот да пачатковых старонак нашых летапісаў абумоўлены моцным жаданнем разабрацца нарэшце ў заблытаных падзеях пачатковай айчыннай гісторыі. Але вельмі няпростая гэта справа. Бо каб даць сапраўдны адказ на многія пытанні (напрыклад, кім быў і адкуль прыйшоў у Полацк князь Рагвалод, чаму наўгародскі князь Уладзімір пажадаў менавіта Рагнеду ўзяць сабе ў жонкі і чаму не пакараў лютай смерцю, калі тая спрабавала забіць мужа), трэба не коўзацца па паверхні летапісных легенд і пераказваць іх змест, а ісці ўглыб, аналізаваць не казкі, а факты.

### ХТО ТАКІ КНЯЗЬ РАГВАЛОД?

"Бе бо Рогъволодъ пришелъ изаморья, имяше власть свою в Полотьске...", — так гаворыць "Повесть временных лет". У адпаведнасці са старажытнай сістэмай моўных форм мінулага часу гэтую фразу трэба перакладаць і разумець наступным чынам: "Рагвалод прыйшоў у Полацк і трымаў тут уладу". Але адкуль прыйшоў Рагвалод? Слова "заморье" нельга разумець як доказ скандынаўскага паходжання князя. Гэта нельга рабіць таму, что імя Рагвалод, у адрозненне, напрыклад, ад імёнаў іншых князёў ці ўладароў — Рурык, Алег, Ігар, Дзір, Аскольд, з'яўляецца вельмі празрыстым, славянскім па сваёй структуры. **Рагвалод** — "той, хто валодае рогам". Але рог — гэта не мыс, не нейкі там паварот ракі, выгін рэчышча, на якім нібыта стаяў замак, дзе ўладарыў Рагвалод. Рог, згодна з найбольш старажытным значэннем гэтага слова ў славянскіх гаворках, трэба разумець як "моц, трываласць, сілу, уладу, магутнасць, багацце". Гэтае слова мы знаходзім у слоўніку У. І. Даля, дзе ёсць таксама вельмі красамоўныя выразы: **рогам сцерці** — "сілаю, уладаю"; **яны рагата жывуць** — "у дастатку, багата"; **рагач** — "чалавек магутны". Такім чынам, **Рагвалод** — "уладальнік сілы, улады, багацця", ён славянскі князь, а не скандынаўскі вандроўнік.

Разам з тым нельга ігнараваць і дакладнае ўказанне летапісу на прыход Рагвалода і лічыць яго прадстаўніком спрадвечнай мясцовай княжацкай дынастыі.

Адкуль жа прыйшоў Рагвалод? Летапіс гаворыць, што "і-заморья", гэта значыць, з-за мора. У "Повести временных лет" гэтае геаграфічнае паняцце сустракаецца яшчэ некалькі разоў. Пад запісам "у год 859", у прыватнасці, паведамляецца: "Имаху дань варязи изъ заморья на чюди и на словенех, на мери и на всехъ кривичехъ..." "За морам" жылі варагі, якія спаганялі даніну з тых плямёнаў, якія насялялі паўночную частку будучай Старажытнай Русі. Браць даніну азначала ў той час трымаць уладу на адпаведнай тэрыторыі і над народамі, што тут жылі. Крывічы, чудзь, славені і мера змагаліся супраць такой залежнасці. У 862 годзе яны "выгналі варагаў **за мора** (падкрэслена намі. — **А. Р.**), і не далі ім даніны, і пачалі самі сабой валодаць...". Але вельмі хутка зноў "пайшлі **за мора,** да варагаў" з прапановай узяць уладу над іх зямлёй. Відаць, усё было трохі не так: варагі сілай падпарадкавалі непакорныя плямёны, а летапіс рысуе нам своеасаблівую ідылію, паўлегендарнае сказанне. Але гэта не мяняе сутнасці: варагі прыйшлі "изъ заморья", а тры іх князі, браты Рурык, Сінявус і Трувар, са сваімі радамі з таго часу трымалі ўладу ў той зямлі, дзе стаяў горад Полацк. Адбывалася гэта яшчэ за 120 гадоў да таго, як у Полацку будзе княжыць варан Рагвалод. Застаецца незразумелым, што хацеў сказаць летапісец, калі заўважаў: "Бе бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья..." Ці падкрэсліваў ён гэтым самым толькі роднасныя сувязі Рагвалода з варагамі стогадовай даўніны і лічыў яго Рурыкавічам? Ці недвухсэнсава і прама сведчыў аб вайсковых паходах Рагвалода, у распараджэнні якога быў магутны па тых часах флот, у розныя землі, у тым ліку і за мора? Здаецца, што абедзве думкі маюць сэнс і адпавядаюць рэчаіснасці. Але ёсць і яшчэ адзін аспект у заблытаных у калейдаскопе далёкіх стагоддзяў падзеях.

Варажскія князі Рурыкавічы трымалі ўладу ў Полацку і ў іншых паўночных рускіх гарадах — Ноўгарадзе, Растове, Мураме, Белавозеры і Ізбарску яшчэ ў сярэдзіне IX стагоддзя, з 862 года, больш чым за 100 гадоў да Рагвалода. А ў 865 ці ў 867 гадах адбыўся вайсковы напад кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра на Полацк, і апошні страціў самастойнасць, падпаў пад кіеўскую ўладу на вельмі доўгі час. М. Ермаловіч, які надрукаваў на старонках "Маладосці" гістарычны нарыс "Старажытная Беларусь", лічыць, што амаль да 944—945 гадоў Полацк не вёў самастойнай палітыкі. Мы, са свайго боку, праверылі па летапісных даных розныя факты і цалкам згодны з гэтай версіяй. У сярэдзіне 40-х гадоў X стагоддзя ў Полацку з'явіўся Рагвалод. Ён прыбыў па Дзвіне, з-за мора, з магутнай варажскай дружынай. Захапіўшы ўладу ў горадзе, Рагвалод абвясціў сябе законным полацкім князем. Рабіў ён гэта свядома, бо быў упэўнены, што род яго яшчэ сто гадоў назад уладарыў у горадзе на Дзвіне. Вось гэты факт і знайшоў адлюстраванне ў "Повести временных лет" у той фразе, з якой мы і пачалі свой расказ.

Рагвалод — "уладальнік рога", гэта значыць, "сілы, улады, магутнасці і багацця". Ён носіць славянскае імя, а з'яўляецца варагам. Ці няма ў гэтым супярэчнасці? Мы ўпэўнены, што няма. Па-першае, таму, што "за морам" таксама жылі славяне. Па-другое, варагі ніколі не скла-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ЗДЫМАЕЦЦА

КІНО



**"Хэпі энд" — так называецца новая работа беларускіх кінематаграфістаў. У аснове сюжэта — аднайменнае апавяданне Вікторыі Токаравай (яна ж — аўтар сцэнарыя). Фільм раскажа пра лёс маладой жанчыны з правінцыяльнага гарадка. Пошукі шчасця, імкненне вырвацца з ціскоў аднастайнага, бязрадаснага жыцця прывядуць да шчаслівай выпадковасці, якая зменіць жыццё гераіні фільма.**

**"Хэпі энд" — рэжысёрскі дэбют вядомага беларускага аператара Таццяны Логінавай.**

**У галоўных ролях заняты артысты: Таццяна Лютаева, Генадзь Шкуратаў, Аляксандр Фяклістаў, Людміла Іванова, Сяргей Мартынаў, Міхкель Смялянскі і іншыя.**

**НА ЗДЫМКУ: яшчэ адзін дубль...**

**Фота У. ШУБЫ.**

# КАЛІ МІНЧАНЕ ВУЧЫЛІСЯ ЧЫТАЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

прадбачыць усе вынікі іх дзейнасці?!

Што датычыцца бібліятэкі, дык пасля губернатарскага багаслаўлення справы хутка пайшлі ўгору. На яе абсталяванне гарадская Дума выдзеліла 10 тысяч рублёў і, акрамя таго, абавязалася выдзяляць штогадовую двухтысячную субсідыю. Мінчане з вялікім натхненнем падтрымалі намаганні гарадскога кіраўніцтва. Яны сабралі для бібліятэкі каля дзвюх тысяч кніг і 1 545 рублёў, якія склалі яе недатыкальны капітал. Толькі член гарадской управы Вянчэўскі ахвяраваў каля 1 600 тамоў розных найменняў. Вялікую арганізацыйную падтрымку аказаў А. Александровіч, першы старшыня Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў.

Адкрыццё адбылося 25 снежня 1900 года, а 27 снежня бібліятэка сустрэла першых наведвальнікаў. Яна не мела свайго будынка: спачатку месцілася ў раёне цяперашняй Кастрычніцкай плошчы насупраць Цэнтральнага сквера, а затым у 1904 годзе пераехала на Храпчэнскую вуліцу ў дом Ленскай. На новым месцы было больш прасторна: тры пакоі адводзіліся для кніг, а два займалі чытальныя залы.

Бібліятэка падпарадкоўвалася гарадскому ўпраўленню, якое для непасрэднага кіраўніцтва ёю ўтварала спецыяльны савет. У адпаведнасці са статутам, туды ў абавязковым парадку павінны былі ўваходзіць дырэктар мужчынскай гімназіі ці дэрэктар рэальнага вучылішча. Запрашаўся бібліятэкар, яго памочнік. Першым старшынёй савета стаў дырэктар рэальнага вучылішча І. Самойла. У 1904 годзе для паляпшэння дзейнасці бібліятэкі было вырашана прыцягваць да кіраўніцтва пастаянных чытачоў. З іх ліку выбіралася грамадскае праўленне.

Працавала бібліятэка з 10 раніцы да 10 вечара. Чытачы, якія карысталіся хатнім абанементам і працавалі ў залах бібліятэкі, уносілі трохрублёвы задатак і плацілі штомесячна 20—30 капеек. Такіх чытачоў тады называлі падпісчыкамі. Наведванне чытальных залаў каштавала 3 капейкі. У 1904 годзе задатак быў паменшаны да двух рублёў, а аднаразовая плата — да дзвюх капеек.

Хто ж прыходзіў у бібліятэку? Сярод 153 падпісчыкаў 1902 года былі 27 асоб розных вольных прафесій (гэта значыць інтэлігентаў), 23 навучэнцы, 21 мешчанін (у тым ліку рабочыя, рамеснікі), 15 настаўнікаў, 14 чыноўнікаў, 13 фельчараў, 9 дваран, 7 чыгуначных служачых, 7 урачоў, 6 вайскоўцаў, 3 патомных і асабовых пачэсных грамадзян, 1 селянін. Як бачыце, прадстаўнікі амаль усіх саслоўяў і прафесій горада. Просты люд, канечне, быў у меншасці, але і ён цягнуўся да ведаў.

Кола чытаючых мінчан пашыралася. Калі ў 1901 годзе бібліятэка мела 38 падпісчыкаў, то ў 1912 годзе — 1 299. Але яшчэ больш было наведвальнікаў чытальных залаў. Перад першай сусветнай вайной там штодзённа чыталі па 150—200 чалавек, а за год набіралася да 60 тысяч. Стотысячны Мінск меў 13 сярэдніх навучальных устаноў. Таму не выпадкова, што вучнёўская моладзь ва ўзросце ад 15 да 21 года складала 40 працэнтаў усіх чытачоў бібліятэкі.

Тут працавалі Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок і іншыя вядомыя дзеячы культуры. Здабыткі рускай культуры выкарыстоўваліся імі для асветніцкай дзейнасці сярод працоўных беларусаў. Не дарма Леў Талстой у 1908 годзе быў абраны пачэсным членам пушкінскай бібліятэкі. Сюды ў 1901—1902 гадах заходзіў і вядомы рускі пісьменнік Яўген Чырыкаў, які ў той час жыў у Мінску.

Бібліятэка мела даволі багаты для таго часу фонд. У 1913 годзе ён налічваў, акрамя перыядычных выданняў, больш за 17 тысяч розных кніг, якія складалі 13 аддзелаў: белетрыстыкі, матэматыкі, геаграфіі і этнаграфіі, гісторыі, сацыялогіі, палітычнай эканоміі, тэорыі і крытыкі літаратуры, біяграфій і мемуараў, публіцыстыкі і палітыкі, філасофіі і багаслоўя, дзіцячай, навукова-папулярнай літаратуры і даведачны аддзел. Бібліятэка выпісвала 15 газет і больш за 30 часопісаў. Штогод набывалася да 1,5 тысячы новых выданняў, якія адбіраліся па рэкамендацыі спецыяльнай камісіі, у якую ўваходзілі пераважна настаўнікі.

Асноўная колькасць кніг была на рускай мове. Пасля 1905 года стала паступаць шмат кніг на яўрэйскай і польскай мовах. З'яўляліся і беларускія выданні.

Выбар кніг быў даволі вялікім. Бібліятэка забяспечвала мінчанам доступ практычна да ўсіх найноўшых дасягненняў у галіне навукі, літаратуры, грамадазнаўства. Пасля першай расійскай рэвалюцыі ў ёй свабодна распаўсюджвалася марксісцкая літаратура. Як сведчыць каталог 1908 года, тут можна было знайсці творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Ільіна (Леніна) "Развіццё капіталізму ў Расіі", а таксама творы Г. Плеханава, К. Каўцкага, Ф. Ласаля, П. Лафарга, К. Цэткін, А. Бебеля, Г. Гегеля, Э. Канта, Л. Феербаха, В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, Д. Пісарава, М. Бярдзяева і іншых вядомых грамадазнаўцаў. Царскія чыноўнікі, якія рэвізавалі бібліятэку ў 1913 годзе, з жалем адзначылі прыналежнасць большасці кніг да сацыялістычнага напрамку думак.

Таму, нікольні не перабольшваючы, можна сцвярджаць, што бібліятэка была тым святым месцам, дзе мінская моладзь вучылася крытычна асэнсоўваць рэчаіснасць, набіраючыся мудрасці і павагі да чалавека працы.

Як сведчыў вядомы дзеяч Беларускай сацыялістычнай грамады С. Скандракоў, які з 1904 года з'яўляўся членам грамадскага праўлення бібліятэкі, яна была своеасаблівым палітычным клубам горада ў рэвалюцыйныя 1905—1907 гады. Паказальна, што члены праўлення спрабавалі адвесці асобны пакой, прысвечаны памяці загінуўшага ў час Курлоўскага расстрэлу члена Мінскай групы РСДРП А. Ентыса, дзе захоўвалася б выключна марксісцкая літаратура. І пасля рэвалюцыі чытальныя залы заставаліся для бальшавікоў горада месцам яўкі.

Карысталіся бібліятэкай у сваіх мэтах і леванародніцкія партыі. У маі 1907 года паліцыя раскрыла ў падвале дома Ленскай падпольную друкарню партыі эсэраў. У 1909 годзе адбыўся суд над бібліятэкарам Віктарам Зелязеем, яго братам Зігмундам і памочніцай бібліятэкара Маршак. Яны абвінавачваліся ў захоўванні забароненай літаратуры і прыналежнасці да Беларускай сацыялістычнай грамады.

У перыяд паміж рэвалюцыямі 1905 і 1917 гадоў у Мінску адкрыліся яшчэ дзве публічныя бібліятэкі, але пушкінская па-ранейшаму з'яўлялася галоўным культурным цэнтрам горада. Яна стала пераемніцай лепшых асветніцкіх традыцый Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, якое спыніла сваю дзейнасць у 1906 годзе. У залах бібліятэкі чыталіся лекцыі, праводзіліся канцэрты, даваліся тэатральныя прадстаўленні. І ўсё ж асноўнаю яе каштоўнасцю былі добрыя кнігі. У нейкай меры бібліятэка замяняла дарэвалюцыйнаму Мінску універсітэт, магла стаць базай для яго адкрыцця.

І зараз, калі перайсці Кастрычніцкую плошчу, пакінуўшы з правай рукі музей Вялікай Айчыннай вайны, то можна ўбачыць невялічкі двухпавярховы домік па вуліцы Інтэрнацыянальнай, у якім раней працавала пушкінская бібліятэка. Ён выкарыстоўваецца цяпер як адміністрацыйны будынак. Невялічкі домік і, здавалася б, невялічкая па сучасных мерках бібліятэчка. Але якую важную ролю ёй выпала адыграць у тыя часы, калі мінчане вучыліся чытаць.

Захар ШЫБЕКА,

Соня ШЫБЕКА.

# ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ, або ТРЫ СЮЖЭТЫ «ПОВЕСТИ ВРЕМЕННЫХ ЛЕТ»

(Заканчэнне на 7-й стар.).

далі адзінага народа. Слова **варагі** не з'яўляецца этнічным найменнем. Па паходжанню яно ўзыходзіць да кельцкіх моў і мае значэнне "народ вады, мора". Варагамі лічыліся вайсковыя атрады, галоўным заняткам якіх была вайна. Яны ў літаральным сэнсе прапаноўвалі свае паслугі розным князям і правіцелям і за адпаведную плату ўдзельнічалі ў паходах і баях. Гэта былі наёмныя воіны. Дружыны варагаў ("варангаў", "марангаў") служылі візантыйскім імператарам, іх выкарыстоўвалі і славянскія князі для ўзаемнай барацьбы. Варагі, такім чынам, уяўляюць сабой своеасаблівую паўночную паралель заходнееўрапейскім вандроўным рыцарам сярэдневякоўя. Толькі ў адрозненне ад апошніх варагі складалі не конныя дружыны, а марскія. Яны перамяшчаліся на хуткіх чаўнах — "бусах" і невялікіх ваенных суднах уздоўж узбярэжжа Варажскага (Балтыйскага) мора і па рэках (у прыватнасці, па Заходняй Дзвіне і Дняпру). Базіраваліся варагі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора і на прыбярэжных астравах. Каб трапіць да варагаў, як апісвае летапіс, трэба было плыць па Заходняй Дзвіне ў Варажскае мора. Адзін, два ці тры дні марскога падарожжа прыводзілі ў краіну варагаў, "марскога, воднага народа", які за шчодрую плату ішоў на самыя неверагодныя вайсковыя авантуры.

Вось чаму варагі, у тым ліку і Рагвалод, прыходзілі "з-за мора". "Повесць временных лет" расказвае, як крывічы, славене, чудзь і мера шукалі сабе князёў. Яны "пайшлі за мора да варагаў, да русі. Тыя варагі называліся руссю, як іншыя называюцца шведы, а іншыя нарманы і англы, а яшчэ іншыя гатландцы..." Як бачым, наш старажытны летапіс недвухсэнсава і дакладна падкрэслівае надэтнічную прыроду варагаў. Вандруючыя дружыны апошніх, якія складаліся на рознаэтнічнай аснове, — гэта даніна часу, неабходная прыналежнасць той эпохі, аб якой ідзе размова.

У запрашэнні варагаў крывічамі, славенамі, чудзю і мераю ёсць адна дэталь. Яны прызвалі не проста варагаў, не проста вайсковыя атрады, а тыя варажскія дружыны, якія знаходзіліся на службе ў князёў русі. Русь даслала ў адказ трох братоў — Рурыка, Сінявуса і Трувара (такіх князёў магло быць і больш, бо тры летапісныя браты нешта вельмі нагадваюць трох братоў з усходнеславянскіх казак, таму могуць быць чыста міфічнымі, легендарнымі персанажамі). Гэтыя браты прыйшли з радамі сваімі. А гэта ўжо ўказанне на міграцыйныя працэсы, на этнічныя сувязі, якія існавалі паміж насельніцтвам Полацкай, Наўгародскай земляў, з аднаго боку, і паморскімі славянамі, жыхарамі паўднёвага ўзбярэжжа Балтыйскага мора і суседніх земляў, з другога боку. "Сляды" гэтых этнічных сувязей дагэтуль існуюць на тэрыторыі Беларусі ў выглядзе цікавых геаграфічных назваў, якія маюць дастаткова паказальнае падабенства з этнічнымі найменнямі шэрагу плямён паморскіх, палабска-прыбалтыйскіх і іншых заходнеславянскіх плямён.

Так, геаграфічную назву на Гомельшчыне — **Лельчыцы** (**Ленчыцы** — мясцовая форма) ёсць сэнс супастаўляць з заходнеславянскім этнонімам **ленчычане.** Этнонім сербскай групы заходнеславянскіх славян **лупагалоўцы** мог адлюстравацца ў назве вёсак **Новыя (Старыя) Галоўчыцы** Петрыкаўскага раёна і **Галоўчыцы** Нараўлянскага раёна, а таксама ў назве ракі **Лупагалова** (Лупа), прытоку Мярэі (Магілёўшчына). Вёскі тыпу **Галоўчыцы** маюцца і ў іншых месцах Беларусі — у Драгічынскім, Пружанскім, Камянецкім, Расонскім, Чэрыкаўскім раёнах. У дзвюх назвах Лельчыцкага раёна — **Ліпляны** і **Сіманічы** вельмі верагодна шукаць адлюстраванне найменняў заходнеславянскіх плямёнаў **ліпьян** і **семчычаў** (аб'яднанне люцічаў-вялетаў), пры гэтым назва **Сіманічы** магла падвергнуцца змяненню пад уплывам уласнага імя **Сымон.**

Але вернемся да асноўнага напрамку нашага апавядання. Варагі-русь, якія прыйшлі ў адказ на запрашэнне шэрагу летапісных плямён, відаць, паходзілі з вострава Руяны, што размяшчаецца ў Одэрскім заліве. Гэты востраў меў некалькі варыянтаў назвы ў розных крыніцах: **Ругія, Рутэнія, Русінія, Райана, Руйана, Рэўна.** А жыхары вострава называліся адпаведна: **ругамі, рутэнамі, русінамі, русцамі, райанамі, руйанамі, ранамі.** Заходнееўрапейскія крыніцы апавядаюць аб жыхарах Руяны наступнае: "Самае моцнае славянскае племя. ...Народ жорсткі, звыш меры адданы ідаласлужэнню, пераважна выдатны сярод усяго славянскага народа". Насельніцтва Руяны славілася сваім пірацтвам (у руянаў быў вялікі марскі флот) і сваімі багаццямі. Галоўны горад русаў Руяны — **Аркон.** Тут знаходзілася славутае і галоўнае сярод усіх паморскіх славян свяцілішча найвышэйшага са славянскіх багоў, прадраканні якога былі самымі сапраўднымі і дзейснымі, — **Святавіта (Свентавіта).** Акадэмік А. Фамінцын у кнізе "Божества древних славян" пісаў: "...самым вялікім шанаваннем у Арконе на востраве Руяне карыстаўся Святавіт з чатырма галавамі... У правай руцэ кумір трымаў рог з розных металаў, які кожны год звычайна напаўняўся віном з рук жраца для варажбы пагоды і ўрадлівасці наступнага года..."

Зноў рог — сімвал боскай улады, сімвал магутнасці і трываласці. Той, хто валодае сімвалічным рогам, падобны на самога бога, той першы ўладар на гэтай зямлі. "Уладальнік рога" — Рагвалод, такое імя мог насіць толькі князь. Гэты князь, родам з-за мора, з вострава Руяны, ці Рутэніі, Русініі, з роду русаў, і стварыў на старажытнай беларускай зямлі першую вядомую нам дзяржаву — Полацкае княства. Руссю лічыў свой край прыдзвінскі князь-русін Рагвалод, як лічылі яшчэ за сто гадоў да яго тыя паморскія князі, якія з радамі сваімі ўпершыню з'явіліся на Наўгародчыне, Полаччыне, на Белавозеры і ў Ізбарску. Ён жа, Рагвалод, як можна меркаваць, упершыню пачаў дадаваць да наймення Русь азначэнне **Белая.** Русь Белая — Русь Магутная, Русь Вялікая... Бог Святавіт у Арконе на востраве Руяне меў свайго жраца, які апранаўся заўсёды ў белае адзенне. І быў у яго конь — увесь белы. А ў час вайны жрэц апранаўся ў чорнае адзенне і садзіўся на варанога каня, якога пакрываў чорнаю папаломаю. Шматзначная колеравая сімволіка, як бачым, была арганічна ўплецена ў светаразуменне старажытных русаў. Вось чаму ў найменні сваёй краіны яны таксама жадалі бачыць адлюстраванне сваёй веры, свайго светапогляду, сваёй сутнасці.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук**





ФІРМА ПРАДАЕ

DOM HANDLOWY MAMUT ®

тавары шырокага спажывання;
гастранамічныя;
адзенне;
абутак;
электратавары;
касметыку;
спорттавары;
мотатавары;
тавары хімічнай прамысловасці;
паперу;
будматэрыялы.

НАШ АДРАС:
Польшча, 64-100, г. Лешна, алея Красінскага, 38.
Тэлефоны: 20-17-77, 20-17-78.
Тэлекс: 045670
Телефекс: 206092.




А. АСТРЭЙКА

Якое хараство — вясна!
Вясне мы ўсе
заўсёды рады.
Святкуе наша старана
Сягоння дні тваёй улады.

Бушуй, спявай, цвіці
І ззяй вясёлкай у расінках,
Каб лёгка нам было ісці
Жыццёвай сонцавай сцяжынкай.

## ПАЛЕСКАЯ БЫЛЬ

Адразу ў трох рэспубліках — на "стыку" Расіі, Украіны і Беларусі — размясцілася Палессе. Гэтаму краю, жыццю і быту яго жыхароў прысвечана выстаўка "Народная культура Палесся" ў Ленінградскім этнаграфічным парку-музеі народаў СССР. Яна праводзіцца ў рамках міжнароднай праграмы, якая вывучае праблему "Славяне Усходняй Еўропы".

Мэта экспазіцыі — падкрэсліць важнасць захавання аднаго з унікальных у этнакультурных адносінах рэгіёнаў славянскага свету. Бо менавіта тут найбольш яскрава прасочваюцца рысы ўсходнеславянскай агульнасці, этнагенетычная аснова трох буйнейшых народаў, якія жывуць на Еўрапейскім кантыненце. Наведвальнікі могуць убачыць рэаліі аднаго з ачагоў архаічнай славянскай культуры. Паказаны рэдкія экспанаты з Палесся, беражліва захаваныя ў фондах музея, — адзенне, хатнія рэчы, конская вупраж, прылады працы, розныя інструменты. Так узнаўляецца аблічча зямлі, дзе спрадвеку ў дружным суседстве жылі рускія, украінцы і беларусы.

Асаблівае гучанне выстаўцы надаюць тыя факты, што Палессе аказалася ў зоне чарнобыльскай катастрофы, што масавае перасяленне жыхароў можа прывесці да страты захаваных да нашых дзён "прыкмет" быту гэтага краю.

## ХТО ЯНЫ, АБАРОНЦЫ РАДЗІМЫ?

У час пракладкі кабелю пад новы будынак прыгарадных кас чыгуначнага вакзала ў Гомелі будаўнікі ўбачылі астанкі савецкіх воінаў. Знойдзена і пяць медальёнаў, якія адпраўлены ў Мінск на экспертызу.

Хто ж гэтыя абаронцы Радзімы? Пры якіх абставінах загінулі? Старажылы горада расказваюць, што ў час вайны тут знаходзіўся вялікі канцлагер для ваеннапалонных, якіх сюды прывозілі па чыгунцы. У дарозе многія ў выніку жорсткага абыходжання, ад голаду і холаду паміралі. І фашысты скідвалі іх трупы ў выкапаныя наспех каля вакзала ямы.

Супрацоўнікі абласнога краязнаўчага музея, работнікі ваенкаматаў і воіны Гомельскага гарнізона, якія ўдзельнічалі ў раскопках, звярнуліся да жыхароў вобласці за дапамогай у раскрыцці гэтага сумнага факта ваеннага ліхалецця.

**У. ПЕРНІКАЎ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 729.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 77 8 9 10 11 12